*Паэт Васіль Жуковіч, чые творы цягам дзесяцігоддзяў змяшчаюцца ў школьных падручніках, упершыню ў адным выданні побач з вершамі надрукаваў апавяданні і казкі.*

*Кніга «Ласкавае сонейка» ўражвае жанравым і тэматычным дыяпазонам, адметным гумарам, добрым зместам. Прасякнутая любоўю да Беларусі, роднай прыроды, нашай мілагучнай мовы, а перадусім – да дзяцей, яна выклікае цэлую гаму задушэўных пачуццяў.*

# АПАВЯДАННІ

## Намаляваны вецер

Калі першакласнік Данік прачытаў у дзіцячым часопісе першы радок верша адной юнае паэткі «Намаляваць хачу я вецер», ён перастаў чытаць далей. Яго надта здзівіла і расчаравала жаданне дзяўчынкі здзейсніць немагчымае. «Дождж я намаляваў бы, – разважыў ён, – а вецер?..» Данік пазяхнуў і загарнуў часопіс.

Прайшло зусім няшмат дзён, як настаўніца малявання прыканцы заняткаў сказала вучням, каб дома паспрабавалі намаляваць... вецер. Пры гэтым дадала:

– Праявіце кемлівасць і фантазію – і ў вас атрымаецца.

Данікаў тата быў у камандзіроўцы, таму сынок не адважыўся турбаваць яго па тэлефоне. Пра незвычайнае заданне настаўніцы сказаў маме. Яна толькі ўсміхнулася:

– Мабыць, твая настаўніца пажартавала?

На другі дзень на двары запахла навальніцаю.

Данік жыў у гарадской кватэры на сёмым паверсе. Ён быў неверагодна здзіўлены, калі пабачыў з акна, як ніцыя вербы ля сажалкі пад націскам ветру згіналіся да зямлі.

– Мамачка, дай, калі ласка, фотаапарат, – папрасіў Данік.

Хлопчык, узброены фотаапаратам, ішоў на балкон, дзе было адчыненае шырокае акно. Тым часам малюнак прыроды дапоўніў і ажывіў капялюш, сарваны ветрам з галавы разгубленага дзядка на тралейбусным прыпынку. Той капялюш каціўся жвава па мокрым асфальце, дзядок бег за ім. Даніку засталося толькі націснуць на кнопку.



– Мамачка, паглядзі, што атрымалася, – сказаў ён.

– Малайчына! Гэта якраз тое, што трэба,— пахваліла матуля.

Цяпер хлопчык натхнёна маляваў вецер, падглядваючы на фотаздымак. А на бліжэйшым уроку малявання настаўніца паставіла Даніку найвышэйшую адзнаку.



## Восы

У памежным Берасці Сяргей і Марыя Васюкевічы вясновую раніцаю рыхталіся сустрэць дальніх сваякоў з Польшчы. Падняліся пад рэзкі званок будніка. Гаспадар паспяшаўся націснуць на кнопку, каб гэтак рана не прачнуўся сямігадовы сын Раман.

Перш чым скіравацца на вакзал, да якога было хвілінаў пятнаццаць хады, яны накрылі стол.

Цягнік «Варшава–Мінск» прыбыў яшчэ зацемна. З вагона на перон выйшла шэсць чалавек – дзве сям'і: пан Мар'ян з жонкаю Вандай і дачкой Гражынаю і пан Адам з жонкаю Зосяй і сынам Уладакам.

Чаргі на стаянцы таксі не было, і Васюкевічы на дзвюх машынах хутка падкацілі да ўтульнага дамка ў цэнтры горада.

Дома гаспадары ласкава запрасілі гасцей за стол, прапанавалі тост за спатканне на беларускай зямлі, пажадалі смачна есці і ў адказ пачулі знаёмае дзенькуемы і смачнэго! Пачынала днець. Аконнае шкло здавалася такім блакітным, быццам акно зашклілі небам.

У кватэры было душнавата, і гаспадар прачыніў фортку.

Свежае паветра бадзёрыла здарожаных гасцей. Але, калі яны пачалі частавацца, увагу ўсіх прыцягнула аса, якая няспешна апускалася над сталом перад самым носам чырванашчокай і рахманай пані Ванды. Не паспела яна адбіцца ад адной асы, як да яе галавы спікіравалі яшчэ тры злосныя і надакучлівыя насякомыя. У той самы час з боку форткі да стала набліжаўся цэлы асіны выводак, з яго няўхільным зніжэннем і пагрозлівым гудам.

– Што гэта?.. Адкуль яны? – гаспадар і гаспадыня зіркалі адно на аднаго.

– О, свенты Езус! – адмахваючыся чым папала, усклікнула пані Ванда.

– Матка Боска! – ёй падпявала пані Зося, угінаючы галаву і ўцякаючы з-за стала.

Пан Мар’ян, пан Адам і юны Уладак гучна смяяліся. А жаночыя воклічы ўсё нарасталі.

Гаспадар адчыніў акно, а гаспадыня ўзброіла ўсіх – каго ручнікамі, каго лахманамі, каго газетамі, і пачалося калектыўнае выгнанне агрэсіўных крылатых нахабніц.

Ад вялікага ажыўлення ў кватэры прачнуўся малы Раман.

– Глянь, сынок! Адкуль гэтае нашэсце? – хвалявалася маці.

– Ведаю, – сказаў Раман. – Учора я ў падмурку нашага дома забіў адтуліну, што вядзе да асінага гнязда.

Ён хуценька апрануўся і пайшоў здымаць блакаду з таго самага гнязда.

Бацька спрытна зачыніў акно і фортку.

Вясёлыя госці сядалі пры стале. Ім вельмі спадабаўся такі незвычайны пачатак застолля.

Пра гэта, вярнуўшыся дадому, не раз апавядалі яны сваім родзічам і знаёмым.



## Выратаваны чмель

Пасля школы Янка вяртаўся з горада дадому, у сваю вёсачку, што мясцілася за лесам.

Быў сонечны вясновы дзень. Над полем звінелі жаўрукі. Абапал шырокай польнае дарогі сям-там цвілі першыя кветачкі падбелу. Слухаючы спевы птушак і любуючыся на жоўтыя агеньчыкі красак, ён непрыкметна наблізіўся да лесу і зайшоў пад зялёныя сасновыя шаты. Злева ад дарогі адкрылася вялікая паляна. У гэтым утульным лясным куточку амаль па-летняму грэла сонца, і хлопчык прыпыніўся. Тут панавала ціша. Янку знячэўку выразна пачулася неспакойнае і непарыўнае гудзенне нейкага насякомага. Хлопчык прыгнуўся да зямлі і ў леташняй сухой траве пабачыў такое дзіва: вялікі бухматы чмель ніяк не можа ўзляцець, бо на спіне ў яго, на адным крыльцы, сядзіць мурашка, і чмель, прагнучы ўзлёту, адно бяжыць па зямлі з такім жаласлівым гудзеннем, што нельга яму не спагадаць.

Хлопчык падняў з зямлі ссохлую галінку і нахіліўся над чмялём, каб скінуць з яго пякучую мурашку. Але доўга не ўдавалася вызваліць крылатае насякомае ад бяскрылага, бо чмель не спыняўся, а ўсё бег і бег. Не ведаючы, як пазбавіцца ад ліха, чмель за лічаныя хвіліны перабег дарогу і памкнуўся на паляну – насустрач сонцу. І толькі на паляне, ужо крокаў за пяць ад дарогі, хлопчык злаўчыўся і скінуў галінкай мурашку з крыльца чмяля.

Вызвалены чмель імгненна ўзняўся ў паветра і паляцеў у сонечны бок паляны.

Доўга яшчэ стаяў вызваляльнік на тым самым месцы, дзе дапамог у бядзе чмялю-небараку. Янка не мог уцяміць, што здарылася з чмялём: як так мурашка апынулася ў яго на спіне? Пасля вярнуўся на дарогу, паглядзеў на лес. Тут, ля дарогі, побач з хвоямі, стаяла вярбіна, уся ў жоў-

цэнькіх пухнатых коцiках, на якiх пчолы збiралi нектар. А па ствале, па галiнках i коцiках вярбы бегалi мурашкi. Хлопчык здагадаўся, што i той чмель прылятаў на гэтую вярбу, збiраў нектар, але, захоплены такiм заняткам, лiшнюю долю секунды затрымаўся, i з вярбовага коцiка на яго перапаўзла маленькая драпежнiца. Вiдаць, яна была i ўпiлася ў ягонае тонкае i празрыстае крылца... Але бяда не здарылася. То i цудоўна!

## Перамагчы сумнiк

– Веранiчка, Францiшак, гляньце, якi раскошны букет я прынесла! – казала Алена Салодкая малым дачцэ i сыну, ставячы ў вазу доўгiя расліны з залацiстымi мяцёлкамi.

Дзецi-блiзняты пакiнулi свае забавы з лялькамi i машынкамi ды падбеглi да матулi.

– Мамачка, дзе ты знайшла такiя кветкi? – пацiкавiўся Францiшак.

– Ды вось на полi, недалёка ад лесу.

– А як называюцца гэтыя кветкi?

– Пакуль, дзеткi, не ведаю, як па-нашаму iх называюць. Гэта з чужых краёў расліны. Раней тут iх не было. I вось пасялiлiся. Са мною поруч iх iрвала нейкая цётка, яна казала, што гэта залатарнiк.

Такая размова адбывалася на лецiшчы Салодкiх, калi iх дзецям-блiзнятам было па пяць гадоў...

Веранiка i Францiшак кожнае лета з мамай i татам бывалi на лецiшчы. Там дзецi ласавалiся садавiной i гароднiнай, дапамагалi палiваць расліны, гулялi ў хованкi, бегалi каля вогнiшча, падкладалi ў агонь трэскi i шышкi, а яшчэ наведвалi любiмую паляну, дзе раслi сунiцы i грыбы. З цягам часу яны заўважылi, што на паляне зашмат з'явiлася су́мнiку, таго самага, якi iхняя мацi калiсьцi рвала на букет. Так, менавiта сумнiкам, а не залатарнiкам называецца па-беларуску той прыхадзень з чужога краю. Дзецi пра гэта ведалi, яны ўжо канчалi трэцi клас беларускай гiмназii. Яшчэ неўзабаве заўважылi блiзняты, як замiнае сумнiк сунiцам, як ён iх заглушае.

– Давай папросiм тату i маму, каб выдралi гэтага шкоднiка, – сказаў Францiшак сястры.

– Мы i самi можам яго выдраць, – запярэчыла Веранiка.

– На ўсёй паляне? – здзiвiўся брат.





– А паглядзі, як лёгка вырываюцца расліны, калі кожную паасобку цягнуць, – сказала Вераніка і ўвачавідкі навырывала пару дзясяткаў ужо даволі цыбатых раслінаў сумніку.

Цяпер сястра з братам узяліся за працу, і хвілінаў за трыццаць іх улюбёная паляна была вызваленая ад пустазелля. Гэта было вясною. А ўлетку дзеці ласаваліся духмянымі салодкімі суніцамі.

## Уражлівы хлопчык

Апроч кніжак і фільмаў, любіць Петрусёк тэлеперадачы пра жывёлаў. І дома, і ў гасцях у бабулі ён уключае патрэбную праграму. У свае восем гадоў хлопчык у пытаннях фаўны нашмат лепей разбіраецца, чым ягоныя тата з мамай ды бабуля, хоць яны ўсе настаўнічаюць.

Петрусёк глядзіць перадачы самыя розныя. Не раз бачыў, як драпежныя звяры нападалі на траваедных. Яму так хацелася, каб лёгкая і зграбная, але безабаронная казуля, за якой гналася гайня крыважэрных ваўкоў, нейкім цудам ратавалася. А стары буйвал, якога з розных бакоў атакавалі вопытныя паляўнічыя – ільвы, каб злаўчыўся і, асуджаны на пагібель, сабраў апошнія сілы ды ўзняў на свае вострыя рогі хоць бы аднаго льва! Але цуды не здараліся: спрытныя драпежнікі лёгка распраўляліся з ахвярамі.

Ад гэткіх відовішчаў у хлопчыка з’яўляліся іншы раз слёзы. Асабліва Петрусёк пакутаваў, калі бачыў, як прыгажуня антылопа трапляла ў пашчу пражэрлівага кракадзіла. Пры беразе, з якога антылопы спускаюцца да вады, ён распластаецца на пяску ў вадзе і ляжыць, бы тая пляскатая камбала, нават не варухнецца, чакае, хітры, свайго моманту. І як толькі антылопы пачынаюць піць, ён імклівай ракетаю імгненна вылятае з вады, хапае адну з іх за шыю і цягне ў ваду…

Петрусёк зацікавіўся, ці не сутыкаюцца між сабою драпежнікі, моцныя і агрэсіўныя, прыкладна роўныя па сіле. І вось яму на радасць блакітны экран паказаў рэдкія кадры: у глыбокай вадзе скрыжаваліся шляхі кракадзіла і акулы. Раздражнёны чымсьці кракадзіл раптам схапіў зубамі плаўнік акулы і зламаў яго. Відаць, больш нашкодзіць не змог ці не паспеў. Пасля гэтага пераможцам усплыў над ёю. Тым часам пакрыўджаная акула, падобна

рэактыўнаму самалёту-знішчальніку, урэзалася галавою ў жывот кракадзілу, пратараніла яго, і вялікі хіжак пайшоў на дно. Петрусёк з палёгкаю перавёў дыханне: і супраць страшнае сілы знайшлася яшчэ большая сіла.

## Жучок і Рыжык

Маленькаму чорнаму сабачку бадай нельга было прыдумаць больш дакладную мянушку, чым тая, якую надаў яму гаспадар. Жучок – чорны бачок – лашчылі сабачку дзеці, насілі яго на руках, гладзілі. Ён на ласку адказваў ласкаю – лізаў іхнія рукі, тварыкі.

Жучок, калі і вырас, па-ранейшаму заставаўся пяшчотнай, добрай істотаю. Здавалася, ён нават і не адчуваў сябе сабакам: так рэдка чуўся ягоны брэх.

Затое гарласты і адкормлены чырвоны певень, пэўна, вельмі добра ўсведамляў, хто ён такі. Гэты птах палічыў, што мала яму быць галавой курынае сям'і, і падумваў стаць гаспадаром усяго жывёльнага двара. Неяк ён відушчым вокам прыкмеціў, што, калі гарлае сваё ку-ка-рэ-ку-у-у-у, Жучок падціскае хвост. Гэта – што ні кажыце – падбадзёрвала, і ён пачаў наступаць. Спрабаваў адбіраць у сабакі ежу, біў яго дзюбаю, лапатаў крыламі. Напачатку той агрызаўся, і ўсё ж нахабства пеўня ўзяло верх. Жучок не толькі не мог адагнаць забіяку, але і канчаткова развучыўся гаўкаць. Зусім, як кажуць, скіс, шмат ляжаў, рэдка вылазіў з будкі. З Жучка пачалі пасміхацца нават куры.

І тады адбыўся сапраўдны цуд: перад будкаю Жучка з'явіўся гаспадароў кот Рыжык.

– Мяў-мяў-мяў! – звярнуўся ён да сабакі, што азначала: «Гэй, Жу-чок!»

– Гаў-гаў-гаў-гаў? – адказаў Жучок, успомніўшы, што ён сабака. Гэта было пытанне: «Што, мой сябра?»

Рыжыку спадабалася, што сабака яго назваў сябрам. З той пары яны шчыра пасябравалі. Нават дзяліліся ежаю і побач грэліся на сонейку. А калі певень-забіяка наляцеў на Жучка, кот Рыжык так смела заступіўся за



сябра, што кіпцюрамі пацягнуў тры пёркі з аднаго пеўневага крыла. Узлаваны певень хацеў адпомсціць кату Рыжыку, наляцеў на яго, а тут Жучок так хапануў пеўня за другое крыло, што з яго пасыпаліся ажно пяць пёркаў. Спалохаўся нядаўні смяльчак, што ў няроўнай бойцы можа застацца з голымі крыламі, ды, як апараны, кінуўся ў свой курнік.

– Ко-ко-ко! – не маўчалі куры. Цяпер яны смяяліся з задзірыстага пеўня. Іхняе ко-ко-ко азначала: ха-ха-ха!

## Яблыня

Раніцаю расцвіла яблыня. Так раптоўна яна ўспыхнула мяккім ружова-белым полымем, і ў садзе стала светла-светла.

Гэта была раніца і ў жыцці самой яблыні, кароткая раніца росквіту, поўная надзей.

А пасля надышоў яе дзень – вялікі, цяжкі і поўны, як тая ноша з яблыкамі, налітымі сонцам і жыватворнымі сокамі зямлі, ноша, якую ледзь-ледзь яблыня падняла. Ізноў у садзе ажно пасвятлела.

А калі з кроны, быццам з небасхілу, скаціўся апошні яблык-поўня, наступіла спакойная, глыбокая ноч яблыні.

## Фантастычнае

– Ты спіш, Дваццаць Сёмы? – запытаўся Восемдзесят Сёмы аўтобус у свайго жалезнага сябра, калі яны абодва адпачывалі ў аўтапарку пасля доўгага рабочага дня.

– Не, не сплю, – адказаў Дваццаць Сёмы, – але страшэнна стаміўся, бо шмат было непрыемных момантаў. Вось паслухай, калі ласка. Напачатку мяне засмуцілі непрыгожыя паводзіны малых школяроў: яны так шумелі, крычалі, быццам стараліся перакрычаць адно аднаго, і штурхаліся, таўкліся, а на заўвагі дарослых проста не зважалі…

Пасля доўга сварыліся мужчына і жанчына. Мужчына, грубы і крыклівы, па сутнасці хам, абражаў жанчыну. Яна спакойным ды цвёрдым голасам давала, як кажуць, здачы, але ніхто не падтрымаў яе, не заступіўся…

У аўтапарку панавала цішыня, і Восемдзесят Сёмы пачуў, як Дваццаць Сёмы цяжка ўздыхнуў.

– І яшчэ адну непрыемнасць давялося перажыць

мне, – працягваў Дваццаць Сёмы. – Неяк даволі доўга стаяла старэнькая і худзенькая бабуля, ды ніхто не саступіў ёй месца…

– Супакойся, дружа! – падтрымаў свайго жалезнага сябра Восемдзесят Сёмы аўтобус. – Падобнае не раз перажываў і я. Затое сёння… Я, відаць, яшчэ доўга не засну ад вялікай радасці! Бо пашчасціла мне падвезці цудоўнага маленькага пасажыра, з якім ехала цэлая сям'я: мама, тата, бабуля і дзядуля. Яны размаўлялі.

«О, колькі сёння вольных месцаў! Сядайма, Глебік», – сказала хлопчыку яго матуля.

«А бабуля, дзядуля і тата?..» – захваляваўся хлопчык.

«Бабуля, дзядуля і тата сядуць таксама», – супакоіла яго мама.

Калі сям'я ўладкавалася на ўтульных месцах, іншыя пасажыры, што сядзелі і стаялі поруч, міжволі зацікавіліся хлопчыкам. Найперш пыталіся, як яго завуць.




«Глеб Дзмітрыевіч», – адказаў малы.

Усім, хто быў паблізу, стала весела. Ды яшчэ больш усмешак з'явілася на тварах людзей, калі ён назваў імя і нават імя па бацьку мамы, таты, дзядулі ды бабулі.

«А колькі ж табе гадкоў, дзіцятка?» – запыталася адна цётачка.

«Два», – адказаў хлопчык.

«Ён можа адказаць яшчэ й на чатырох замежных мовах», – адазваўся яго тата. – Скажы, Глебік, па-нямецку: два».

«Цвай», – адказала, не задумляючыся, дзіцё.

«А як сказаць па-польску: тры?» – падтрымаў гамонку дзядуля.

«Тшы», – з ходу адказала хлапчанё.

«Гэта што! – уклінілася ў размову яго мама. – Скажы, сын, па-французску: адзінаццаць.

«Онз», – адказаў ён, мой самы маленькі пасажыр.

– Не можа быць! – не паверыў сябру Дваццаць Сёмы аўтобус. – Такіх вундэркіндаў не бывае!

– Мо больш такіх і няма, але адзін ёсць, гэта дакладна, – адказаў Восемдзесят Сёмы. Што я табе яшчэ апавяду – ты зноў не паверыш. Рэч у тым, што малы пераказваў азбуку, нават мог назваць парадкавы нумар кожнай літары алфавіту, а яшчэ называў адрасы – свой і дзядулеў, а таксама нумары тэлефонаў – свайго і родзічаў, ён нават па мабільнічку датэлефанаваўся да стрыечнага брата Ягоркі. І свае, і чужыя былі з хлопчыкам ласкавыя, асабліва бабуля. Прыканцы паездкі яна запыталася:

«А скажы, унучак, адкуль ты едзеш і куды?»

«З Вішнёвай на Сасновую, – адказаў ён. – Ад цябе, бабуся, дадому».

«А які аўтобус цябе вязе?»

«Восемдзесят Сёмы», – адказаў маляўка-вундэркінд.

– Ты сабе гэта ўяўляеш? – з захапленнем і гонарам казаў свайму сябру шчаслівы Восемдзесят Сёмы аўтобус. – А калі сям'я выходзіла на прыпынку «Сасновая», Глеб Дзмітрыевіч, махаючы мне маленечкай рукою, сказаў: «Да пабачэння. З Богам!»

У аўтапарку неўзабаве стала зусім-зусім ціха. Абодва жалезныя сябры летуценілі. Восемдзесят Сёмы аўтобус марыў пра хутчэйшую новую сустрэчу з цудоўным пасажырам, а Дваццаць Сёмы – пра тое, каб яму як-небудзь пашчасціла пазнаёміцца з гэтым хлопчыкам-беларусам.

## Зайка-плывец

З сямігадовым сынам блукаў я па зямлі старой крэпасці. Цёпла свяціла і грэла сонца; пышныя кусты бэзу кіпелі квеценню, сям-там яны адбіваліся ў неглыбокіх, амаль празрыстых пасля ўчорашняга дажджу лужынах. Неба стаяла яснае і высокае. Недзе на процілеглым беразе Буга, парослым вербалоззем і таполямі, кувала зязюля. А па гэты бок паўнаводнай ракі, над лугавымі і палявымі краскамі, пяшчотна мільгалі белыя крылцы матылькоў і заклапочана гудзелі пчолы. Усё наўкола: гэтыя пчолы і матылькі, збуялы ў квецені бэз, кусты і дрэвы над ракою, шчодрае сонца і глыбокае неба – усё стварала шырокую карціну цішыні.

Мы з сынам ішлі сцежкаю-жвіроўкаю да Буга: хацелася пастаяць і прайсціся ля вады, паглядзець, ці не шчыруе там які заядлы рыбалоў з вудаю, спінінгам альбо «павуком» у руках.

Раптам побач, збоку ад нас, пачуўся лёгкі тупат. Першы павярнуўся мой хлопчык.



– Заяц! Заяц! – крыкнуў ён і паказаў рукою. – Во, во, во!

Я паглядзеў, куды паказваў сын, і пабачыў устрывожанага зайца.

«Адкуль жа ён выскачыў?» – пытаўся я сам у сябе. – Дзе-небудзь з-пад куста? А мо з руінаў крэпасці? Але чаго ён трапіў сюды, лічы ў горад? Нейкі дзівак, няйначай».

– Вось ён! Заяц! Гэй! – гарланілі на бягу дзеці.

Памкнуліся і мы з сынам па заечых слядах.

Тым часам зайка, пасля імгненнай замінкі, перасякаў кароткую адлегласць да ракі. Іншыя кірункі яму, відаць, прыйшліся не даспадобы: справа і злева былі людзі.

Гледзячы на звярка, я думаў пра тое, што ж будзе далей. У кожным разе, я меркаваў, што ён рачным берагам скіруе на прастор. Але ў галаве шэрага мільгануў інакшы, больш рашучы рызыкоўны намер – ён скочыў у раку.

– Ух ты! Паплыў!.. Унь, паглядзі… – здзіўляліся дзеці ўжо ў невялікім натоўпе, што сабраўся на беразе.

Не маўчалі і дарослыя.

– От чарцяня! А я думала, што зайцы не ўмеюць плаваць, – не ўтойвала свайго захаплення светлавалосая жанчына ў яркай аранжавай кофце.

– Відаць, біты… – важна адзначыў худы вусаты мужчына, з плашчом на сагнутай у локці руцэ.

Мой хлопчык ціснуўся да мяне, выказваючы сваю дзіцячую трывогу:

– Татачка, ён патоне!..

– Не патоне, – супакойваў я малога. – Бачыш, не тоне… ён лёгкі…

Было забаўна бачыць, як над вадой тырчыць маленькая галава з вялізнымі, закінутымі назад вушамі. Плысці смельчаку было цяжка: там, дзе Мухавец зліваецца з Бугам, вада даволі напорыстая. І як ні стараўся звярок, яго ўвесь час ад-

насіла ўбок. А калі, нібыта да фінішнай стужкі, ён наблізіўся да запаветнага берага, адбылася такая нечаканасць: на тым беразе, пад навіссю густога вербалозу, яго, адважнага плыўца, ужо чакаў памежнік, які сышоў з моста да вады.

Павярнуць назад зайка не насмельваўся – не хапіла б, напэўна, сілы. Ды і як яму ведаць, ці не сустрэнуць і там яго назолы-чалавекі. Ён спрабаваў скіравацца направа, налева, але, стомлены праследам памежніка, пайшоў да яго ў рукі.

Салдат узяў зайца за вушы і панёс паказаць сваім паплечнікам, вайскоўцам.

– Татачка, яму не баліць?! – хваляваўся мой хлопчык, тузаючы маю руку.

– Не бойся, не баліць, – суцяшаў я малога.

– Ото будзе каралеўская вячэра! – сказаў нехта з экскурсантаў, што ўсё яшчэ стаялі, прываблены гэтай кароткай гісторыяй, і чакалі, як яна скончыцца.

– Тата, што ён гаворыць, той дзядзька? – непакоіла малога ягоная здагадка.

– Нічога, не слухай яго, – казаў я сыну, абы нешта сказаць, а сам хваляваўся не менш за яго.

Я ведаў, якія звычайна падкія бываюць людзі на ўсялякую дзічыну. А тут яшчэ ўзгадалася мая нядаўняя размова з адным знаёмым кіроўцам. Ён, абураючыся, апавядаў, як некаторыя шафяругі, спудзіўшы на дарозе зайца, не выпускаюць яго з палону асляпляльнага святла, пакуль не трапіць ён пад колы.

Аднак памежнік, пажартаваўшы з саслужыўцамі, паставіў зайца на зямлю і, прытрымліваючы за вушы, пагладзіў яго.

Берагі злучала нешырокая плынь вады, і з таго берага даляцела:

– Дурненькі, каму ты патрэбны!

І памежнік адпусціў «палоннага» на волю.

Мы з сынам весела ўсміхнуліся.

Натоўп з палёгкай уздыхнуў.

А заяц ад радасці, што за сваё дзівацтва не паплаціўся шкуркаю, хутка знік за кустоўем вербалозу.

Мы вярталіся з крэпасці ў горад. На зямлі панавала цішыня. Пад ласкавым сонцам буяла квецень бэзу, размаіта – белым, жоўтым, сінім, ружовым – цвілі краскі, напаўняючы паветра вясёлым водарам, шчыравалі пчолы. То там, то тут мільгалі ў паветры матылькі. Высока ў небе, амаль не махаючы крыламі, ляцеў кудысьці белы бусел.

# КАЗКІ

## Зачараваная краска

Матулю з пяцігадовай Вікторыяй вясновы зялёны лес сустрэў вясёлым шчэбетам птушак і ўтульным спакоем. Недалёка ад разгалістае сасны, ля якой Маці з дачушкаю размясціліся, каб адпачыць ад гарадскога шуму-тлуму, расцвіла на невялічкім пагорку цудоўная краска Сон.

– Мамачка, я хачу сарваць гэтую кветку! – усклікнула малая, заварожаная красою сіне-фіялетавых пялёсткаў, бухматага сцябла, густа апушанага срабрыстымі шаўкавістымі валаскамі і фігурных пёркападобных лістоў лясное прыгажуні.

Не паспела Маці адказаць, як пачуўся пяшчотны галасок растрывожанай краскі:



– Не загубі мяне, дзяўчынка, злітуйся! Я ж і так знаходжуся на мяжы знікнення, ужо даўно занесеная ў Чырвоную кнігу.

– Чуеш, дачушка, што кажа краска-прыгажуня? Таму не чапай, пашкадуй ты яе. Палюбуйся на яе тут, у лесе, а дома, можа, і намалюеш.

Вікторыя была моцна ўражаная тым, што кветка загаварыла з ёю чалавечым голасам, і тым, што яна ёй сказала. Толькі не разумела дзяўчынка, што такое Чырвоная кніга, упершыню пачула пра яе. Таму яна запыталася ў матулі:

– Мамачка, а што такое Чырвоная кніга?

– Вой, дачушка, гэта такая кніга, куды трапляюць расліны, жывёлы, птушкі, насякомыя, якім пагражае знікненне з зямлі, бо іх ужо вельмі мала.

– Мамачка,– запыталася Вікторыя, – а што, калі пасля нас хто-небудзь прыйдзе сюды і сарве гэтую прывабную кветку?

– Не ведаю, дачушка. Хочацца верыць, што ўсё будзе добра. Але давай схаваем краску Сон ад якога-небудзь ліхога, сквапнага вока.

Жанчына сабрала жменю сухіх галінак і наўтыкала іх у зямлю вакол рэдкаснае краскі.

Хутка праляцела вясна, і прыйшло лета. Аднаго разу Вікторыя, ідучы азёрным берагам са сваім старэйшым стрыечным Братам, пабачыла праз зарасці аеру і чароту белую, раскошна расквітнелую кветку. Яна была вялікая, як далонька, і нагадвала светлую-светлую зорку, настолькі яркія былі яе пялёсткі…

– Што гэта? – пацікавілася дзяўчынка ў Брата. – Што там, на вадзе, беленькае гэтак зіхаціць?

– Гэта Гарлачык.



– Што такое Гарлачык? – дапыталася яна.

– Гэх ты, маляўка, не ведаеш такое краскі? Бачыш, кветка гэтая цяпер падобная да сподачка, а калі сонца зойдзе, яна згорнецца і стане нагадваць гарлачык, іначай мовіць – збаночак.

– Хачу, каб у мяне была гэтая кветка, – усхвалявана сказала дзяўчынка і тут жа пачула сумны галасок мілай краскі:

– Не зрывайце мяне, калі ласка. Мне і так цяжка выжыць, я ўжо занесеная ў Чырвоную кнігу.

«Чаму ўсё скардзяцца кветкі, што яны ў Чырвонай кнізе?» – толькі так падумала Вікторыя, як пачула яшчэ адзін пранікнёны голас, голас Матухны-Прыроды, якая стварыла гэтую прыгажосць:

– Не чапайце, дзеці, краску. Калі яна застанецца жыць, ёю доўга будуць любавацца людзі, а як будзе сарваная, то вельмі хутка завяне, і ад прыгажосці не застанецца і следу.

Але спакойны і заклапочаны голас Прыроды заглушаўся іншым, фальшывым голасам:

– Нічога не бойцеся! Кветка так блізка ад вас! Вам хочацца завалодаць ёю – валодайце! Вас павучае сама Чарадзейка.

Насамрэч гэта прамаўляла Чарадзейка, але не добрая Чарадзейка, а злосная. Ды дзеці не здагадаліся.

– Чуў, што сказала Чарадзейка? – звярнулася Вікторыя да Брата. – Я хачу, каб ты сарваў мне дзівосную кветку. А можа, ты нясмелы, мо баішся вады?

Брату, старэйшаму за яе, зусім не хацелася паказацца баязлівым, і ён неўзабаве ўручыў сястры выдраны з коранем Гарлачык.

– Ух ты, якая даўжэзная кветка! Як ты яе ўсю выдраў? – усцешылася Вікторыя. – Я ніколі не бачыла такое кветкі!

А Гарлачык быў зачараваны злоснаю Чарадзейкаю: хто яго сарве, той будзе вянуць, як і сарваная ім краска!..

Так яно і здарылася: як толькі пачала ў цёплых руках Вікторыі вянуць краска, адразу зрабілася дрэнна хлапчуку, што яе выдраў.

Ён ледзьве дайшоў дадому, упаў на ложак, бо дужа саслабеў.

– Што рабіць, што пачаць? Як сыночка ўратаваць? – разгубленая ягоная Маці заломвала рукі з нечаканага гора.

Сведкаю гэтых пакутаў сталася Вікторыя.

– Мамачка, – звярнулася дзяўчынка да сваёй Маці, калі прыбегла дамоў, – неўзабаве зусім завяне Гарлачык і, значыцца, будзе бяда з маім Братам. Няўжо нельга іх уратаваць?

– Ты не паслухалася Матухны-Прыроды, – сказала Маці, – цяпер прасі прабачэння ў яе і пытайся, што рабіць.

Матухна-Прырода сама пачула іхнюю гаворку.

– Слухай мяне ўважліва, – сказала яна Вікторыі. – Паратунак у тваіх руках. Сама вінаватая, сама цяпер старайся, ніхто цябе не падменіць. За бліжэйшым ад вашага горада лесам ёсць жыватока, там жывая вада, ты павінная да заходу сонца данесці туды Гарлачык і апусціць яго ў жывую ваду. Гарлачык аджыве, і твой Брат ачуняе. Хутчэй выходзь. Добрая Чарадзейка пакажа сцяжынку да жыватокі.

Добрае Чарадзейкі Вікторыя не пабачыла, але на ганку ляжаў яе вялікі клубок нітак, які пачаў каціцца перад дзяўчынкаю, паказваючы ёй дакладны кірунак да жыватокі.

– Бяжы, не адставай ад клубка, ён чароўны, – чуўся зычлівы голас добрай Чарадзейкі.

Вікторыя змушаная была бегчы хутка-хутка, паспяваючы за клубком, яна ледзь не падала, але выбару ў яе не было, як толькі спяшацца. Пачуццё віны за выдраны Брата Гарлачык і жаданне выратаваць жыццё Брата нават не дапускалі думкі пра адпачынак, тым болей што сонца імкліва апускалася да зямлі.

І вось перад вачыма заблішчэла жаданая жыватока.

Дзяўчынка з апошнімі промнямі сонца апускала ў жывую ваду амаль звялы Гарлачык, які, на яе здзіўленне і на шчасце, адразу аджыў і прыжыўся ў цудадзейнай стыхіі. Калі ж яна вярталася дамоў, яе ў дарозе спаткаў Брат, здаровы і вясёлы. Цяпер яны адно аднаму далі слова не рабіць шкоды Матухне-Прыродзе.

## Размова з Цягніком

Жыў-быў Цягнік – Электрычны Рухавік. Ён не адзін дзясятак гадоў перавозіў людзей – ад станцыі да станцыі, з горада ў горад. А вядома, што ўсе, каго перавозяць цягнікі, называюцца пасажырамі. Дык вось за шмат гадоў ён перавёз мільёны пасажыраў (сталых і малых, вучняў і студэнтаў, дзяўчат і хлопцаў, цывільных і вайскоўцаў), ды ніхто-ніхто ніколі не размаўляў з ім.

І раптам аднойчы да яго звярнуўся цікавы хлопчык Антончык, які разам з мамай, татам, бабуляй і дзядулем ехаў з Менска ў Берасце.

– Скажы, калі ласка, Цягнік – Электрычны Рухавік, – спытаў маленькі вандроўнік, – колькі табе гадоў?

– Мне – дваццаць пяць. А табе?

– Мне тры гады, – адказаў хлопчык і дадаў: – Кажаш, табе дваццаць пяць гадоў? Столькі якраз і маёй маме.

– Вось як, – падтрымаў гамонку Цягнік – Электрычны Рухавік, – значыць, мы з ёй равеснікі.

Хлопчык памаўчаў, потым зноўку загаварыў.

– Калі мы з мамай ішлі па пероне, – сказаў ён, – я лічыў

вагоны і налічыў ажно дваццаць два. Табе не цяжка цягнуць столькі вагонаў?

– Цяжэй было некалі маім родзічам, паравозам, – адказаў металічны волат, – кожны спальваў у топцы вугаль, каб працаваў паравы рухавік. А мне, электравозу, спальваць вугаль не трэба – вялікую сілу майму рухавіку дае электрычны ток.

– А дзе ты бярэш электрычны ток? – зацікавіўся Антончык.

– Я адкажу табе на наступнай станцыі, – сказаў Цягнік – Электрычны Рухавік, – а зараз хутчэй заходзь у свой вагон, мне час адпраўляцца.

Дапытлівы хлопчык упершыню ехаў у вагоне з аднаго горада ў іншы разам з мамай, татам, бабуляй і дзядулем. Дарога была даволі доўгая, часу на гамонку ў сям'і было багата, і Антончыку тут адказалі на ўсе ягоныя пытанні. Заадно ён уведаў, як адчыняюцца і зачыняюцца дзверы купэ, як апускаюцца і падымаюцца паліцы, як уключаецца і выключаецца электрычнае святло, як зачыняе і адчыняе вагон праваднiца, як разносіць яна пасажырам гарбату…



А Цягніку – Элекрычнаму Рухавіку стала трошкі сумнавата, што да яго з пытаннямі больш не падышоў такі цікавы пасажыр. Ды верыць ён: яшчэ падыдзе.

## Хто памірыў Нізенькі Дом з Высокім Домам

У густанаселеным месце жыў-быў Нізенькі Дом. На двух яго паверхах мясцілася ўсяго шаснаццаць кватэраў, і ўсе жыхары там добра зналіся між сабою і шчыра сябравалі. Насельнікі Нізенькага Дома былі працавітыя. Пасадзілі пад вокнамі разнаітыя кветкі, кусты і садовыя дрэўцы ды клапатліва даглядалі іх. Там пры цёплым сонейку гудзелі пчолы і чмялі, шчабяталі птушкі.

Аднойчы побач з Нізенькім Домам магутныя бульдозеры і экскаватары сталі рыхтаваць будаўнічую пляцоўку. Неўзабаве з'явіўся пад'ёмны кран. І пачаў расці Высокі Дом. Будаўнікі шчыравалі на будоўлі, нібы нястомныя мурашкі, таму ён вельмі хутка вырас. На ўсіх дваццаці паверхах людзі засяліліся, а на зямлі вакол свайго Высокага Дома не пасадзілі ні дрэўца, ні куста, ні кветачкі.

Здарылася непрадбачанае: стары і новы будынкі раптам пачалі сварыцца, абражаць адзін аднаго.



– Гэй ты, Ліліпут! – сказаў Нізенькаму Дому Высокі Дом. – У мяне ўражанне, быццам ты не стаіш, а ляжыш, як калода.

– А ты стаіш, але нібы кол! – адказаў яму Нізенькі Дом. – Каля мяне растуць кветкі, кусты і дрэвы, спяваюць птушкі, а вакол цябе толькі вецер гуляе.

– А ты мне нагадваеш пацука, які ляжыць.

– А ты падобны да жырафы, якая вушамі затуляе сонца.

– А навошта пацуку сонца?..

Мабыць, яны яшчэ доўга абменьваліся б узаемнымі абразамі. Але аднаго разу з Нізенькага Дома выйшла юная дзяўчына, рыхтык Каралеўна, а з Высокага Дома выйшаў хлопец, бы сапраўдны Каралевіч. І пайшлі яны насустрач адно аднаму. Каралевіч, зачараваны, не мог адвесці вачэй ад Каралеўны, а яна – ад яго. Яны закахаліся.

Быў пачатак новага вясновага дня. І так прыгожа спявалі птушкі ды такі прыемны водар разлівалі наўкола кветкі, як ніколі дагэтуль. Высокі Дом і Нізенькі Дом усімі вокнамі паглядзелі адзін на аднаго і радасна ўсміхнуліся. Ну, вядома ж, яны пасябравалі, як вядома і тое, што Каралевіч і Каралеўна пабраліся шлюбам, сталі разам жыць-пажываць і дабро нажываць.

## Рукавічкі

На краі горада ў мамы і таты расла Алачка-малявачка. Нічым асабліва не вылучалася, хіба толькі сваім маленечкім ростам. У будзённыя дні маці вадзіла дачушку ў дзіцячы садок, вечарамі дома ёй апавядала казкі. Слухаць іх Алачка-малявачка любіла, асабліва ўпадабала яна казку пра Дзюймовачку, якая (так дзяўчынцы здавалася) была падобная да яе.

Набліжалася зіма з яе маразамі і завірухамі, і мама купіла



дачушцы прыгожую куртачку, каляровы шалік і беленькія пальчаткі з ружовымі сняжынкамі. Але гэтым абновам давялося паляжаць, бо іх малая гаспадынька захварэла і доўга лекавалася. Чакалі-зачакаліся яе ў куточку на балконе лыжы, на якіх яна любіла катацца звычайна разам з татам або з мамай у лесе, што пачынаўся за іх домам. Хворай дзяўчынцы нічога не заставалася, як цягам двух тыдняў прымаць лекі ды сумаваць, гледзячы ў акно. Алачцы так хацелася на вуліцу, пабегаць па снезе, які на сонцы ззяў гэтак яскрава, як ззяе пагодлівай ноччу зорнае неба! І тым большае з'яўлялася жаданне выйсці з дому, чым больш яна бачыла ў двары на горцы дзяцей, якія, катаючыся на саначках, весела гаманілі і смяяліся ад радасці.

Свята да Алачкі-малявачкі прыйшло ў звычайны будзённы дзень, калі прачнулася яна здаровая.

А наступным днём, калі мама і тата былі на працы, ёй закарцела пакатацца на лыжах. Хуценька абулася, надзела новую куртачку, на рукі – прыгожыя пальчаткі, узяла на балконе лыжы і пайшла ў свой знаёмы лес. Пратаптаная сцяжынка вывела яе на шырокую і доўгую заснежаную дарогу. Па лыжні, раней пракладзенай лыжнікамі, ішлося лёгка. І хоць дзяўчынка была маленечкая і на ножках у яе былі маленечкія лыжы, ішла яна хутка-хуценька. І неяк не заўважыла, як апынулася далёка ад дому – у глухім і змрочным лесе. Шумелі высокія яліны, хвоі, бярозы, так шумелі, што малой стала страшна. Апроч таго, у яе задубянелі пальчыкі рук, і яна, прытуліўшыся да бярозы, горка заплакала. «Мамачка, дзе ты?» – з адчаем ускрыкнула Алачка-малявачка. А якраз у гэты час лясной дарогаю ехаў на тройцы коней Дзед Мароз. Ён у санях вёз не адзін мех падарункаў, спяшаўся ў горад віншаваць дзяцей з Новым годам. Хоць і хутка ехаў Дзед Мароз, так хутка, ажно ба-

рада на ветры матлялася, а пачуў дзіцячы плач, потым ён пабачыў ля бярозы разгубленую маленечкую дзяўчынку. Супыніў тройку коней, саскочыў з саней і падбег да яе.

– Дзіцятка, чаму ты ў лесе адно?

– Бо мама і тата на працы.

– А ты пыталася ў іх дазволу пайсці ў лес?

– Не сварыцеся, калі ласка, Дзядуля Мароз, я забылася спытацца дазволу.

– А чаму ты плачаш? Ці не ад страху?

– У мяне замерзлі ручкі, – паскардзілася Алачка-малявачка.

– Прашу ў мае сані, я завязу цябе дадому.

– Дзякуй, Дзядуля, шчыры дзякуй!

Дзед Мароз падхапіў малую разам з яе лыжамі і занёс у сані. Едучы ў горад, ён вызваліў з халодных пальчатак ручаняты дзяўчынкі і сваім дыханнем хутка сагрэў іх.

– Вазьмі свае прыгожыя пальчаткі ў кішэньку, а я табе падарую рукавічкі.

Ён дастаў з меха цёплыя чырвоныя рукавічкі і нацягнуў іх на рукі малой.

– Пальчаткі ў такі холад насіць не варта, карыстайся маімі рукавічкамі, – сказаў Дзед Мароз. – Ну што, так цяплей?

– Дзякуй, Дзядуля Мароз, рукі мае ўжо сагрэліся.

– Гэта таму, што пальцы ў рукавіцах не раз’яднаныя, як у пальчатках, яны ўсе побач, разам. Вось так і людзі даюць рады нягодам лягчэй, калі яны разам.

Неўзабаве дзяўчынка, на радасць маме і тату, якія толькі што вярнуліся з працы, была дома. У той дзень дый пасля яна часта ўспамінала сваю прыгоду. І ў лес больш адна не хадзіла. А калі выходзіла з дому ў марознае надвор’е, то не ў пальчатках фарсіла, а ў рукавічках Дзеда Мароза.



## Ласкавае сонейка

Ішла па чыстым полі Ноч. У доўгім цёмным плашчы і ў капелюшы, усыпаным залатымі крапінкамі. Таямнічым святлом паблісквалі яе каралі. Яшчэ была яна ўпрыгожаная завушніцамі ў форме паўмесяцаў, якія выглядвалі з-пад чорнае хмаркі валасоў. Крочыла Ноч нетаропка і ўпэўнена, бо ўвайшла ў сваю паўнапраўную ўладу. На хаду яна загаварыла даволі бадзёра:

– Дзе сонца зайшло,
Там я гаспадыня.
Дзе сонца зайшло,
Зямля як пустыня:
Нікога нідзе
На ўсім Божым свеце…

А калі прыслухалася, тут жа дадала:

– Ды нехта ж ідзе…
А, гэта ты, Вецер?

Вецер вельмі ўзрадаваўся, што ёсць да каго звярнуцца, і бесклапотна-весела сказаў:

– Пазнала, сяброўка мая,
Так, гэта я.

Ноч ізноў прыслухалася і, здзіўленая, пачула незвычайную гамонку, якая ў поўнай зямной цішыні далятала з нябёсаў. І яна сказала свавольнаму і ўсмешліваму Ветру:

– Паслухай, звысоку, дзе зоркі,
Даносіцца – чуеш? – гаворка.

Ноч і Вецер як мага ямчэй уселіся на нехалоднай летняй травіцы і неўзабаве пачулі, хто і пра што гавораць. Дзіва дзіўнае: спрачаліся вядомыя планеты, яны



выхваляліся сабой. Ноч і Вецер не адразу паверылі сваім вушам, бо ніколі не думалі, што свяцілы могуць быць падобныя да самалюбных людзей. А самае нечаканае тое, што пачалі спрэчку планеты мужчынскага роду. Ноч і Вецер пачулі наступнае:

– Я – Марс, я свяціла Сусвету,
Яскравая зорка-планета,
Скажу я, хоць бачу ўсіх прыгажосць,
Святлей за мяне наўрад ці хто ёсць.

Тут пачуўся больш упэўнены голас:

– Замоўкні, Марс,
Смяяцца будуць куры,
Бо за цябе
Ярчэйшы я, Меркурый.

Але абедзвюх планет мужчынскага роду – і Марса, і Меркурыя – папракнула шаноўная пані Венера:

– Нясціплым трэба быць без меры,
Каб у прысутнасці Венеры
Сабой, мужчынскі род, хваліцца...
Завуць мяне ў народзе Мілавіцай,
Я – зорка яркая, пра што ўсе знаюць,
Таму і ў вершах, песнях апяваюць.

Не абышлася спрэчка і без вельмі шаноўнага спадара Месяца, які ажно пабялеў з твару, калі пачуў усіх, так бы мовіць, выскачак. А як яшчэ ён мог падумаць пра ўсіх тых, чыё святло было, канечне, менш прыкметнае, чым ягонае! Між тым ён, як і ўсе іншыя насельнікі высокага неба, быў натхнёны спадарыняй Ноччу. Гэта і зразумела, бо дзякуючы Ночы ён, як і ўсе планеты, якія толькі што гэтак выхваляліся сваім святлом, цяпер выразна відаць з нашай роднай Зямлі. Звяртаўся Месяц да славутае Венеры:

– Прабач, хоць ведае цябе народ
І прадстаўляеш ты жаночы род,
Я ўпэўнены і не змаўчу,
Што я нашмат ярчэй свячу.

А цікава, што ў гэты час думала наша планета Зямля? О, яна ўсё чула! Ёй надакучыла слухаць пустыя размовы, якія не далі ёй хоць бы падрамаць. І яна рашуча выказала тое, што думала:

– Досыць, слаўныя свяцілы!
Лепет ваш даволі мілы,
Вы б хваліліся бясконца…
Але ж хутка ўзыдзе Сонца!

Ноч, як пачула пра яго вялікасць Сонца, зразумела, што яе ўлада канчаецца.

– Ну, дружа Вецер, табе не сумна было слухаць спрэчку вядомых жыхароў неба? – запытала яна.

– Не сумна, а трохі смешна было. Малайцы хоць Юпітэр і Сатурн – яны не апусціліся так нізка…

Ноч здзівілася, што легкадумны Вецер нават пра далёкія планеты ведае, і з павагаю да яго мовіла:

– Малайчына наша Зямля, яна ўсім сказала праўду.

Ноч развіталася з Ветрам і стала нябачнай, гэтак лёгка знікла да самага вечара. Вецер паляцеў сваволіць да возера. Пагаслі ў світальным небе Марс і Меркурый, а таксама Венера і Месяц. Неўзабаве імкліва ўзышло Сонца. Яно зусім не хвалілася ні сваёй красою, ні сілаю, а вельмі ласкава скіравала на працу ўсе свае незлічоныя промні:

– Промні, мае дзетачкі, цеплынёй сваёй
Абагрэйце кветачкі на зямліцы ўсёй.
Калі ласка, родныя, вы хутчэй, хутчэй
Абагрэйце птушачак – хай пяюць званчэй.



Абагрэйце, промнічкі, пушчы і сады,
Ягады каб выраслі, смачныя плады.
Абагрэйце, мілыя, нівы і лугі,
Атуліце ласкаю свет наш дарагі!

Усяму раслiннаму свету і ўсёй жывой прыродзе стала цёпла і радасна. А расліны і кветкі, якія ажывіліся пасля начнога сну, загаманілі:

– Дзякуй табе, Сонейка!
Так добра нам з табой!
Якое ж ты ласкавае
Вясноваю парой!
Каб усё расло,
Каб усё цвіло,
Дорыш ты цяпло,
Дорыш ты святло.

І Сонца адказала:

– А як жа, як іначай? Павінна я паспець да вечара, да ночы свет белы абагрэць.

Цэлы дзень усё жывое на Зямлі радавалася, а калі надышоў вечар, расліны і кветкі пакланіліся Сонцу. Уначы яны бачылі прыемныя каляровыя сны.

# Бабуліна сляза

У адным беларускім мястэчку жыла-была з матуляй ды бабуляю дзяўчынка Яніна. Усе наўкола людзі заўважалі яе дзіцячую красу. Пяшчотнымі незабудкамі ззялі Янінчыны вочы, дзівоснымі пялёсткамі ружы выглядалі шчочкі, малінкамі-ягадкамі гарэлі вусначкі, весела кучараваліся на галаве залацістыя валасы і, нібы вясновая ручаінка, звінеў яе голас. Але галоўнае не гэта, а тое, што расла Янінка ласкавая, уважлівая, любіла слухаць, што людзі гавораць. І нідзе не забывала ветлівых слоўцаў: «добры дзень!», «калі ласка!», «смачна есці!», «перапрашаю!», «даруйце!», «на здароўе!», «дабранач!». Цешыліся з яе і не маглі нацешыцца мама і маміна мама – бабуля. Радаваліся ўсе людзі добрыя, адно некаторыя засцерагалі родных: «Шануйце дзяўчынку, гэта ваш неацэнны скарб». А людзі злыя зайздросцілі і маме, і бабулі той гожай дзяўчынкі. «Як жа хутка ўбіраецца ў сілу ваша Яніна! Відаць ужо: квітнець будзе пышна! – казалі яны і, заўважаючы яе сціпласць і ласкавасць, дадавалі: – Вам баяцца старасці няма чаго – Яніна вас дагледзіць…»

І раптам Янінку як падмянілі: яна стала нетактоўная, быццам яе ніхто ніколі не выхоўваў, а яе душою быццам завалодаў чорт. Пачала крыўляцца, без прычыны злавацца і чапляцца да бабулі і мамы.

– Вы непрыгожыя, вы тоўстыя, – казала яна, – а ўсё таму, што шмат умінаеце булак, бульбы, мяса, масла! І мяне прывучылі!.. Я ніякіх вашых страваў не хачу! Хачу харчавацца бананамі, ананасамі, ківі!

Маці і бабуля прасілі Янінку апамятацца, але іхнія словы не дапамагалі. Яны пачалі траціць апошнія грошы, каб здабыць Яніне заморскую садавіну, ды гэта не заўсёды ўдавалася. А тым часам капрызная дзяўчынка перастала есці звычайныя хатнія стравы, зусім адвыкла ад варыва і печыва. І ўвачавідкі пажоўкла і схуднела, гэтак вяне-чэзне кветка без вады. Правалiліся шчокі, глыбока запалі вочы, уся яна стала касцістая. Захварэла з нерваў і злегла мама. Несуцешна плакала бабуля. Але капрызуля, замiж таго каб даглядаць хворую маму і суцешыць бабулю, і ўдзень і ўночы стаяла перад люстэркам, каб упэўніцца, што не патаўсцела. На ўсялякія заўвагі і просьбы родных адно агрызалася:

– Ды што вы, старыя, разумееце!

Да Яніны выклікалі доктара, але яна яго да сябе не падпусціла, а па нейкім часе гаротніца ад хранічнага галадання знясілела. Ёй пагражала страшная хвароба. Ды аднаго разу, калі Яніна заснула, над ёй схілілася бабуля. З бабуліных вачэй пасыпаліся слёзы. Гэта былі слёзы жалю і адчаю.

І здарылася дзіва дзіўнае: адна слязіна з рэчак бабуліных слёзаў пранікла да самага сэрца дзяўчынкі і вярнула яго да жыцця. Выявілася, што яно ад зайздрасці людской было заледзянелае. Бабуліна сляза растапіла на сэрцы дзяўчынкі лёд – і Яніна прачнулася здаровая, прыгожая і разумная. «Божа, дапамажы падняцца маёй хворай маме!» – сказала яна зусім ціха, але мама такі ласкавы родны голас адразу пачула. І хваробу з яе як рукой зняло.

З таго часу ні ў Яніны, ні ў яе мамы, ні ў мамінай мамы не здараліся непрыемнасці.

# Лясная шкодніца

Бацюхна Год і яго сёмы сын Ліпень крочылі па Берасцейшчыне. Яны найбольш любілі палявыя дарогі, уздоўж якіх раслі васількі, рамонкі, дзе-нідзе і цыкорыі. Але не толькі краскі цешылі ім душу – падабаўся нават сівы палын, яго выразны пах. Няспешна наблізіліся яны да жытнёвага поля, залюбаваліся каласістай густой збажынаю. Далей, за ніваю залацістаю, ішоў высокі лес.



– Ці не хочаш, бацька, ягад? – запытаўся Ліпень у бацюхны Года. – У гэтым лесе мне знаёмыя чарнічныя мясціны.

– Сам, калі ласка, ідзі, я пакуль не хачу, – адказаў бацюхна Год.

Ліпень скіраваў да лесу.

Тым часам у лес па чарніцы прыйшоў невялічкі хлопчык Алесь з невялічкім вядзерцам. Там ён пабачыў з добры дзясятак людзей, якія збіралі ягады. Алесь павітаўся з імі, а пасля, калі знайшоў плодны ягаднік, увесь усыпаны буйнымі чарніцамі, заўважыў на зямлі нямала зламаных і выдраных кусточкаў ягадніку. Некаторыя з іх ужо змянілі колер – сталі бледна-рудыя. Хлопчык занепакоіўся, ён падняў некалькі выдраных кусточкаў чарнічніку і падышоў да незнаёмых людзей, што збіралі ягады.

– Ці не ведаеце, людзі добрыя, хто гэта робіць такую шкоду? – і ён узняў знішчаныя расліны.

– Ведаем, сынку, ведаем, вунь яна, шкодніца, расселася на паваленым ураганам дрэве.

– А вы сарамацілі яе? – запытаўся Алесь.

– А як жа, ды сораму яна і знаць не хоча, кажа: «Вы для мяне не ўказ! Што хачу, тое і раблю!» Аддзялілася ад нас, уцякла, каб не чуць папрокаў нашых.

Імгненна Алесь наблізіўся да шкодніцы:

– Што вы, цётка, робіце?

– Ну, ягады абрываю. А табе што да мяне?

– Усе людзі ягады збіраюць, а вы ягаднік зрываеце, нішчыце! А на знішчаных галінках яшчэ колькі зялёных ягад. Яны не даспеюць, прападуць, нікому не дастануцца.

– Падумаеш, ягад шмат, усім хопіць.

– А калі б усе так вычваралі, як вы, то не было б нікому, – гаварыў Алесь.

– Ты не павучай мяне, у цябе яшчэ малако на губах не абсохла, – так жвава абаранялася шкодніца.

Гэтую размову чуў спадар Ліпень, сёмы сын беларускага бацюхны Года. Ён непрыкметна падышоў і стаў за спінаю хлопчыка.

– Хлопчык праўду кажа, – умяшаўся ў гамонку Ліпень. – А я дадам: чарнічнік амаль дваццаць гадоў расце, перш чым на ім з'явяцца першыя ягады. Так што, цётухна, канчайце сваю ганебную справу.

– Якія ж вы разумныя, такія правільныя! Проста цацы! – адбівалася цётка, абрываючы ягады з выдраных чарнічных кусточкаў і зламаных галінак, кідаючы знішчаныя расліны пад ногі. – Ды пайшлі вы да д'ябла!

Спадар Ліпень дастаў мабільнічак.

– Бацька, – клікаў ён бацюхну Года. – Патрэбная твая дапамога. Чакаю цябе ў лесе.

Бацюхна Год на сынаў голас прыйшоў хутка. Ён, калі зразумеў, у чым тут справа, параіў знайсці Лесавічка. Лесавічок знайшоўся, ён даслаў Жэўжыка-нявідку з бярэмкам нябачнай для зроку крапівы. Шкодніца толькі пачынала зноў чарнічныя кусточкі выдзіраць, а Жэўжык-нявідка як пекане жыгучкай па руках!

– О-я-ёй! Што за нячыстая сіла! – закрычала тая ды наўцёкі.

Тут і гумоўцы пазляталі з ног. А Жэўжык-нявідка і па нагах добра пеканула.

– Вой-вой! Рукі, ногі агнём гараць! – яшчэ гучней крычала яна.

– Гэта табе за тваю шкоду! – наўздагон ёй несліся словы Лесавічка.

Кабета зачапілася за корч, і частка ягад высыпалася з



яе кошыка, гэтак хутка ўцякала яна. Пасля апамяталася, вярнулася, падняла свае гумоўцы, а тады, чырвоная, як бурак, пашыбавала з лесу не азіраючыся.

Нікому яна не апавядала, як была лясною шкодніцай і як яе адвучылі рабіць шкоду лесу, а значыць, і прыродзе, і людзям.

## Прыгода Кнігалюба

Сябры мае! Няхай сабе многія казкі пачынаюцца словамі «жылі-былі...» альбо «жыў-быў...» ці «жыла-была...» А мая казка папрасілася ў мяне пачацца інакш. У стольным горадзе жыве хлопчык, які больш за ўсё на свеце любіць кнігі. Напачатку ён навучыўся слухаць усё, што яму чыталі мама і тата, бабуля і дзядуля, і слухаў так уважліва і быў так заварожаны пачутым, што яму самому дужа-дужа закарцела навучыцца чытаць.

І ад вялікага жадання здарылася дзіва дзіўнае: хлопчык навучыўся чытаць за тры дні! Цяпер у яго шмат любімых кніжак, з якімі не расстаецца. Чытае і дома, і ў дзіцячым садку, і нават на адпачынку, таму яго назвалі Кнігалюбам. Гэта незвычайны Кнігалюб, настолькі незвычайны, што, чытаючы, ніколі-ніколі не хварэе, а толькі дужэе ды прыгажэе і вельмі хутка расце! Уявіце сабе: хлопчык – дашкольнік, але ж ён большы за многіх школьнікаў.

Аднойчы, пасля заняткаў у дзіцячым садку, Кнігалюбу надарылася з мамай адпачываць у сваім мікрараёне, на зялёным лужку, які размяшчаўся паміж іхнім высокім домам і празрыстым возерам. Хлопчык узяў з сабою вялікую Кнігу казак. Седзячы на коўдры, ён і яго мама з такім захапленнем чыталі казкі, што нават не заўважылі, як звечарэла. Калі ж яны збіраліся дадому, над іх галовамі да




возера праляцела чарада беласнежных лебедзяў. І вось, праводзячы позіркамі нечаканых птушак, яны не глянулі ўніз і не заўважылі, што на траве засталася Кніга казак.

Неўзабаве зайшло сонца, і над зямлёю ўзышла вялікая-вялікая поўня. І адбыўся цуд: Кніга пачала адчуваць, думаць і гаварыць, як і людзі. Ёй упершыню ў жыцці стала сумна-сумна, калі зразумела, што яна зусім адна, забытая людзьмі. «Няўжо ў траве і заначую?» – захвалявалася яна. Тут раптам пачула чыесьці крокі. Ёй падумалася, што вяртаюцца яе гаспадары – Кнігалюб і яго мама, з якімі ёй было так цёпла! Ды тут яна пачула чыйсьці грубы голас: «Стамілася, мучыцелька? Адпачываеш?» Пры гэтым той нехта заліўся брыдкім штучным смехам. Пачуць такое было крыўдна да слёз, ды Кніга была выхаваная і пастаралася адказаць спакойна: «Я не мучыцелька, я – Кніга». «Па-мойму, людзям ты – на ліха!» – сказаў той самы голас. «Хто ж ты такі?» – спытала Кніга. Незнаёмы адказаў: «Хто невукам, хто гультаём заве. Маёй затое лёгка галаве. Камп'ютар маю, у гульні розныя гуляю. Закончыў трэці клас. Ды кнігі мяне мучылі не раз. Настаўнікі гуляць мне замінаюць, чытаць у школе прымушаюць!..» Кніга адказала гультаю-невуку: «А ты прымусу не чакай і сам часцей чытай». Тут гультай-невук узлаваў. «Яшчэ ты, – кажа,– будзеш павучаць?! Маўчаць!» Ён схапіў Кнігу, пачаў яе шарпаць. «Звяду са свету, – кажа, – утаплю! І гэтым справу добрую зраблю. Такіх, як ты, спрадвеку не люблю».

Узняўся вецер. На ясны месяц наплыла цёмная хмара. Гультай-невук пацягнуў Кнігу да возера.

Тым часам з дому прыбег Кнігалюб, знайшоў тое месца, дзе з матуляю адпачываў, ды Кнігі там не было. І звярнуўся ён, усхваляваны, да лужка:

– Ці не бачыў, лужок, ці не чулі, краскі,
Я тут Кнігу забыў – там такія казкі!

Я ж яе так бярог! Так яе люблю я!
Як забыць яе мог! Без яе гарую…

Лужок адказаў:

– Толькі што была яна,
Чулася і гамана –
Дапякаў ёй нейкі гіцаль,
З ёй паспеў кудысьці змыцца.

Лужок паспачуваў хлопчыку і параіў знайсці кагосьці больш высокага. Тады Кнігалюб звярнуўся да спадара месяца:

– Ясны месяц! Месяц ясны,
У пакутах я!
Ці не бачыў, даражэнькі,
Кніга дзе мая?

Цяпер стала ціха-ціха на зямлі. І гэта цудоўна: інакш хлопчык не пачуў бы адказу.

Месяц, як і лужок, сказаў праўду:

– Бачыў Кнігу тваю, бачыў,
На траве яна была,
Але потым недзе знікла,
Калі хмара наплыла.

Кнігалюб дужа кемлівы быў, ён гэтак жа прачула звярнуўся да самой цішыні, хоць яе і не бачыў вачыма, бо яе немагчыма пабачыць.

– Цішыня! Ты памажы мне –
У пакутах я!
Ці не бачыла, не чула,
Кніга дзе мая?

Цішыня адказала:

– Чула, хлопча, й зараз чую,
Ты прыслухайся і сам –
Кнізе гора: завалодаў
Ёю невук нейкі, хам!



Прыслухаўся Кнігалюб і пачуў страшна здзеклівыя словы гультая-невука:

– Ну, вось і вадзічка…
Як вока, азерца…
Купацца не хочаш,
Але ж давядзецца.
Ну, што ж, перад лазняй
Такой адмысловай
Ты можаш прамовіць
Апошняе слова.

Сэрца ў грудзях Кнігалюба закалацілася ад жалю і гневу. Кніга неяк злаўчылася даць аплявуху злыдню. Кнігалюб гэта пабачыў, як пабачыў і тое, што гультай-невук пацягнуў яе да возера, таму імгненна кінуўся напярэймы яму і гучна пачаў пагражаць:

– Ах ты, злыдзень! Ах ты, кат!
Што ты учыняеш?!
Пачакай жа! Кухталёў
Зараз атрымаеш!

Баязлівы гультай-невук пакінуў Кнігу і пусціўся наўцёкі.

Кнігалюб гучна засмяяўся:

– Вось так, «герой»… Пабег!
Адно мільгаюць пяты…

Калі ж наблізіўся да Кнігі, то пяшчотна прамовіў:

– Прабач мне, родная, прабач,
Я страшна вінаваты.

Кніга моцна ўзрадавалася, але была яна вельмі спакутаваная, стомленая, таму адказала коратка: «Не будзем болей гараваць… Давай з табой век сябраваць». Шчаслівы хлопчык паабяцаў ёй, сваёй найцудоўнай сяброўцы, што не пакіне яе нідзе.

# ВЕРШЫ

## З мамаю ўтульна

Мама так мяне радуе
Ўсмешкай, словам і справай,
Дапамогай, парадаю,
Свежай смачнаю стравай!

З ціхай мамінай ласкаю
Я нібыта ўзлятаю,
З мудрай мамінай казкаю
Я расту, падрастаю.

Выхавальніца першая
У мяне – мая мама.
І настаўніца лепшая
Для мяне гэтаксама.

Мілагучныя самыя
Словы – мама, матуля...
Мне так добранька з мамаю,
З ёю ўсюды мне ўтульна.



## Калыханка

Засынае сонейка.
Спаць кладзіся, донечка,
Ручкі, ножкі супакой,
Сон паклічам мы з табой.

Сон ужо, дачушачка,
Ля твае падушачкі;
Пра забавы больш не дбай.
Люлі-люлі, баю-бай!

Засынай жа, дочанька.
Зычу добрай ночанькі!
Спі, дзіцё, адпачывай,
Люлі-люлі, баю-бай!

Хай цябе ахоўвае
Твой анёл-ахоўнічак!
Люлі-люлі, баю-бай,
Люлі-люлі, баю-бай!

Сонейка абудзіцца —
Мроі твае збудуцца.
Люлі-люлі, баю-бай,
Люлі-люлі, баю-бай!





## Беларуская старонка

Лес ідзе да небакраю.
Рэчка, горачка, раўніна.
Вечна сэрцу дарагая
Беларуская карціна.
Ля крыніцы – медуніцы,
Дзе даліна, там каліна,
Дзе лясочак – верасочак, –
Ой ты, родная мясціна!

А пад ветрыкам у полі
Хваляй ціхай жыта ходзіць,
На прасторы, на прыволлі
Сэрца мне яно лагодзіць.
Жыта наша – з васількамі,
Наша неба – з жаўрукамі.
Апяваюць песняй звонкай
Птушкі родную старонку.

Я красу тваю вітаю,
Ніў, лясоў і рэк гамонку,
Непаўторная, святая
Беларуская старонка!



## Беларуская мова

Нехта ад мовы сваёй адракаецца.
Прыкладу ты з яго б толькі не браў!
Ён пашкадуе яшчэ і пакаецца,
Бо зразумее: душу абакраў.

Родная мова – багацце народнае,
Не параўнаецца золата з ёй!
Ззяе яна прыгажосцю прыроднаю,
Зорнай красою высокай сваёй.

Сэрцам прыслухайся – ў мове пачуецца
Шолах жытнёвы і звон ручая,
Мужнага краю пяшчота адчуецца…
Непараўнальная мова твая.

Чыстая ўся, крышталёва-крынічная,
Спеўная і гаваркая яна,
І мілагучная, і меладычная,
Водарам дыхае, быццам вясна.

Што за дзівак ад яе адракаецца?!
Прыкладу ты з яго б толькі не браў!
Ён пашкадуе яшчэ і пакаецца,
Бо зразумее: сябе пакараў.



## Карціна

Дзе з лесам поле межавала,
Дзе сумаваў беразнячок,
Адна мастачка малявала
Прыроды вабнае куток.

Была зіма. Мароз нядужы
Ішоў аснежанай зямлёй.
Гарэлі шчокі, нібы ружы,
У той дзяўчыны маладой.

На ёй былі, як у сялянкі,
Валёнкі, хустка, кажушок...
На палатне – дыханне ранку,
Бярозкі, неба і сняжок.

Сугучна фарбы заспявалі...
Але сышоў кароткі дзень –
Мастачкі той сляды расталі,
Яе не бачу больш нідзе.

Ды я прыгадваю дзяўчыну,
Калі пакліча ў лес зіма.
Жывой чароўнаю карцінай
Была тады яна сама.



## Музыка

Музыка лашчыць душу,
Можа яна нагадаць
Ветру пушчанскага шум,
Звон ручая,
Спеў салаўя,
Можа яна перадаць
Крык, цішыню,
Глыбіню, вышыню,
Лёт матылькоў і арлоў...
Красамоўнай такой, ёй не трэба і слоў.

## Першая настаўніца

Мне першая настаўніца
Запомніцца навек.
Найпершая настаўніца –
Мой родны чалавек.
Такая непаўторная,
Ласкавая яна,
Як сонейка вясновае,
Як цёплая вясна.

У нашае настаўніцы
Характар залаты.
Запомняцца і ўспомняцца
Урокі дабраты.
Усходамі парадуе
Пасеянае ёй.
Найпершая настаўніца –
Святло душы маёй.



## Танцорка

Няхай на некалькі імгненняў
Дзяўчына ў танцы расцвіла –
Яна з’яднаная была
З высокай музыкай
Натхненнем.
Гляджу на танец, як на дзіва,
О, колькі ў ім харашыні!
Каля крынічнай чысціні,
Напэўна, танец нарадзіўся.

Напэўна, нарадзіўся танец
Каля чароўнага агню.
Люблю я танца цеплыню,
Люблю я танца апантанасць.

Напэўна, танец нарадзіўся
Пад неба зорнага шатром.
Мне на душу ён лёг святлом
І зорнай песняй абудзіўся.



## Паэт

Красой натхняецца паэт;
Красою паланёны,
У белы свет, прывабны свет
Навечна улюбёны.

І мову птушак, ручаёў
З маленства разумее,
І з таямнічых галасоў
Складаць ён песні ўмее.

Пад сонцам, зоркамі паэт
Жыве дзесь побач з намі,
Ён углядаецца ў СУСВЕТ,
Глыбокі, неспазнаны;

Сузор’і слухае душой
І Млечны Шлях чытае.
Па волі НЕБА ён прыйшоў,
Яго любоў святая.

## Першы лісток

Над ручайковай песняй
Вятрыска не шуміць.
Лісток з пупышкі весняй
На белы свет глядзіць.
Вялікая турбота
Да лісціка прыйшла:
Імкнецца ўсёй істотай
Да сонца, да святла!
Дарослым стаць ён хоча.
Грэй, сонейка, ярчэй, –
Маленечкі лісточак
Хай вырасце хутчэй!

## Здзейсненая мара

Каб мілыя птушкі
Наш двор не міналі,
Мы з татам шпакоўню
Для іх змайстравалі.
У садзе шпакоўня,



Пра што я так марыў!
Там шпак з гаспадыняй –
Сямейная пара.
Прыгожая хатка
Жыльцамі занята,
І выглянуць хутка
Адтуль птушаняты.

## Буслава айчына

Ён вярнуўся здалёк,
Бусел белакрылы,
У свой родны куток,
У куточак мілы –
Да гнязда, дзе ён рос
На страсе хаціны.

Каля белых бяроз,
На зямлі белых рос
Буслава айчына.
А забыць айчыну
Проста немагчыма.



## Бусліха-аптымістка

Над сваёй старонкай роднай
Лётаў бусел дзень, другі,
А не ўбачыў аніводнай
Саламянае страхі.
Кажа ён сваёй каханай:
– Дарагая, што рабіць?
На страсе несаламянай
Небяспечна будзе жыць!
Па-над вёскамі бусліха
Пралятала дзень, другі
І сказала мужу ціха:
– Не хвалюйся, дарагі;
Наваселле акуратна
Справім гэтаю вясной –
На слупе на тэлеграфным
Мы паселімся з табой.
Абжывем куток бусліны
Там, дзе добра ўсё відно,
І апошнія навіны
Будзем слухаць заадно.

## Любімая краска

Прастор яе не вузкі;
Жыве валошка й жыцьме
У мове беларускай,
У беларускім жыце,
На кубачку, талерцы,
На ільняным абрусе
І ў маім верным сэрцы –
Як сімвал Беларусі.



## Лён-ляночак

На полі гэтак ясна
Цвіце пад сонцам лён!
Пяшчотны лён, прыўкрасны,
Мяне так цешыць ён!



Калі цвіце ляночак,
Мне з ім святлее свет.
Мне часам сніцца ноччу
Блакітны лёну цвет.

Калі цвіце ляночак
У роднай старане,
Маёй сяброўкі вочы
Нагадвае ён мне.

## Лета

Сонейкам багата лета
І вясёлкавай красой.
Раніцой мільёны кветак
Умываюцца расой.
Гляньце – зорачкамі ззяюць
Каля жыта васількі.
Ды паціху замаўкаюць
Над палямі жаўрукі.
Лета-лецейка, не ўцякай!
Лета-лецейка, пачакай!
Ты любімае – гэта знай,
З намі, лецейка, пагуляй!
Час квітнення, даспявання,
Набірання новых сіл,



Лета – час выпрабавання
У палёце юных крыл.
Рана ў кроны ты ўплятаеш,
Лета, жоўтыя лісты...
Што ж так хутка пралятаеш,
Лета радаснае, ты?
Лета-лецейка, не ўцякай!
Лета-лецейка, пачакай!
Ты любімае – гэта знай,
З намі, лецейка, пагуляй!

## Чапля шэрая

Чапу-ляпу, па вадзе
Птушка шэрая брыдзе,
Хай там спёка, хай там слота –
Жыць не можа без балота!
На балоце есць і п’е.
Ногі доўгія ў яе,
А яшчэ даўжэзны нос.
(Дзюбаю птушыны нос
Называецца ўсур’ёз.)
Гэта чапля тут жыве
Цэлы свой птушыны век.
Ля вады гняздо будуе,
Не гаруе, не бядуе –
Чаплянят сваіх гадуе,
Чапаць вучыць іх і лётаць
Ды любіць сваё балота.
Ні сюды і ні туды
Шэрай чаплі без вады.



## Змей папяровы

Да нітачкі танюткай
Прывязаны мой змей,
Яго падхопіць хутка
Вясёлы ветравей.

Ляціць ён, узлятае
Вышэй, вышэй, вышэй,
Аблокі ён вітае,
Мой папяровы змей.

Ой, вырваў нечакана
Вятрыска нітку з рук!
Ляціць у свет нязнаны
Цудоўны мой сябрук.

Над роднаю старонкай
Гуляе ветравей,
Не бойцеся, жаўронкі:
Ляціць мой добры змей.

## Маладая восень

Залатыя стужкі
На бярозцы мілай.
Адлятаюць птушкі
У далёкі вырай.
Вой, вятры крутыя
Холаду наганяць,
Хмары скрозь густыя
Неба запалоняць!
А пакуль што – просінь
Паміж хмарак белых.
Маладая восень
Толькі прыляцела.

## Жураўліны вырай

Жураўлі над лесам
З ціхай песняй шчырай.
Ён такі тужлівы –
Жураўліны вырай!
А чаму тужлівы –
Лішняе пытанне:
Гэта з родным краем
Птушак развітанне.

## Першы снег

Першы снег, бялюткі снег!
Колькі ж ён прысыпаў стрэх,
І сцяжынак, і дарог,
Нават на варотах лёг!



Абяліў сняжок наш двор,
Асвятліў увесь прастор.
Нам на радасць – першы снег,
З ім – забавы, гульні, смех.

## Замарылася

Вам прызнаюся, люблю,
Каб мяне хвалілі.
Нешта важнае раблю
Кожную хвіліну.
Як вазоны палівала,
Я вады не шкадавала,
Так старанна паліла,
Што й падлогу заліла.

І не шкадавала мыла,
Як хусціначку я мыла –
Цэлы змыліла кусок,
Перайшла на парашок.

На пліце абед варыла,
Не зварыла, а спаліла,
Вінаваты тэлефон –
Да сябе паклікаў ён.

Як зарадку я рабіла,
Лямпу скінула, разбіла;
З братам пасварылася –
Дужа замарылася.



## Зачараваныя зямлёй

Глядзі, які дзянёк цудоўны:
Ляцяць сняжынкі ў цішыні,
Прыслухайся – ледзь-ледзь улоўны
Ідзе шумочак з вышыні.

Ляцяць сняжыначкі павольна,
Зачараваныя зямлёй,
Ім гэтак лёгка і прывольна
Над лесам, полем, над ракой.

Лятуць сняжынкі з сівай хмары,
Як матылёчкі на святло,
І ўсё пра іх, здаецца, марыць –
І лес, і поле, і сяло.

## У Тані – пытанні

У гасціне тата быў,
І пытае Таня:
– Што мне, татачка, прынёс?
– Толькі прывітанне.

І дачушка задае
Новае пытанне:
– Прывітанне? Дзе яно?
Дай мне прывітанне!



## Пра Ірынку і хвілінку

Не даклікацца з двара
Увечары Ірынкі.
– Марш дахаты! Спаць пара!
– Мамачка, яшчэ хвілінку...

Раніцой Ірынка спіць,
Абдымаючы падушку,
Немагчыма пабудзіць,
Хоць бяры цягні за вушкі.

– Падымайся, дзетка!
– Ай!..
– Час прыйшоў, Ірынка:
Школа кліча, уставай!
– Мамачка, яшчэ хвілінку...

## Мяч у крапіве

Мяч Рыгоркаў паскакаў,
Апынуўся ў крапіве;
Як хлапчук яго дастаў –
Стала весела дзятве...
Ваўчанём Рыгорка выў,
Як вылазіў з крапівы.

Мама выбегла: «Вой, вой!
Што, мой родненькі, з табой?
Ты апёкся крапівой,
Гэткай злоснаю травой?»
Тут Рыгорка ўжо зароў,
Нібы цэлы гурт зуброў.



Бабка ўчула ўсё:
«Гэх, вы! Баіцеся крапівы...
Крапіва пякучая,
Ды яна ж гаючая».

## Хто хацеў бы пакатацца?

– Хто хацеў бы пакатацца
На кані, скажыце мне?
– Я хацеў бы пакатацца!
– А не страшна?
– Не, не, не!
– Хто хацеў бы пакатацца
На магутным на слане?
– Я хацеў бы пакатацца!
– А не страшна?
– Не, не, не!
– Хто хацеў бы пакатацца
На жырафінай спіне?
– Я хацеў бы пакатацца!
Толькі... як залезці мне?

## Выбіраю прафесію

Я хачу быць футбалістам,
Забіваць галы са свістам
Галавой, нагой, рукой!
Вой, што я кажу!..
Я хачу быць машыністам,
Электрычкі гнаць са свістам
З хуткасцю сто, дзвесце, трыста
За хвіліну! Ой, што я кажу!..



Я хачу быць каскадзёрам,
Уявіце: я скачу,
З вышыні скачу я ў мора,
У агонь скачу!..
Вой, што я кажу!.. Не хачу.

## Кармленне Нікі

Час кармлення мілай Нікі –
Гэта час забаў шматлікіх.
Каб дачушка з’ела кашку,
Мала апавесці казку,
І сямейка ўся шчыруе –
Улагоджвае малую:

Дзед спявае, танчыць бабка,
У паветра хутка шапку
Брат гарэзна падкідацьме,
Мячык галавой трымацьме,
Тата волю дасць экрану,
А пасля адкрые краны,

Шумна каб вада збягала,
Кашу есці памагала...
Гэткіх дзеяў сцэнарыстка –
Мама Нікіна, артыстка...
Уявіць ужо няцяжка:
Мама ўсю скарміла кашку!



## Як воўк гасцяваў у казы



Карой лазовай частавала
Ваўка галоднага каза,
Ласкава так яму казала:
– Паешце, смачная лаза,
Багатая на вітаміны,
Клянуся мужа барадой!
Чаму ж у вас такая міна
Перад выдатнаю ядой?
– Цябе прыняць – чарга мая.
Мо завітаеш часам?
Напэўна, пачастую я
Цябе найлепшым мясам.
«Што ён такое мне сказаў? –
Каза недаўмявала.
Ламала галаву каза:
«Мо штосьці не так сказала?»
Дамоў вяртаўся злосны воўк,
Зубамі ляскаў: шчоўк ды шчоўк!

## Фантазія Флёкса

Флёкс фіялачкам сказаў:
– Фікус фокус паказаў,
Паглядзіце, паглядзіце –
Столь сваім лістом дастаў!
– Што вы, флёкс, ці ж гэта фокус! –
Запярэчыў гучна крокус.
– Гэта факт, не фокус гэта, –
Кактус прамаўляў з імпэтам. –
Фікус наш дарослы стаў,
Вось да столі і дастаў.

## Укрыўджаны Шарык

Сваім дваром зялёным
Бег Шарык да вароны.
Хадзіла па двары яна
Зусім-зусім адна.
Падбег і кажа Шарык ёй:
– Гэй, гэй! Варона, гэй!
Ты пасябруй са мной –
Нам будзе весялей.
Крутнула пташка галавой:
– Ты ж не мая кампанія.
Глядзі, якая пані я! –
Махнула крыламі – шух-шух, –
Не далічыў шчанюк да двух,
Як пташка і ўзляцела.
«Гэх, сябраваць не захацела!..»
Такога павароту
Сабачка не чакаў,
Сядзеў,
Глядзеў
І доўга
Ад крыўды ён маўчаў.



## Неабачлівы лось

Казаў дзесь хтось:
Прадаў рогі лось.
Вось ідзе, высакародны,
А насустрач – воўк галодны...
Вось дзе лось пашкадаваў,
Што ён рогі прадаваў!

## Абжора

Учора абжора вады выпіў мора,
Пятнаццаць авечак ён з'еў пазаўчора,
Тры тысячы рыб і тры тысячы ракаў.
А сёння матулі сказаў, небарака,
Што болей не хоча ні есці, ні піць, –
Ён трошкі, дзён гэтак пятнаццаць, паспіць.

Улёгся абжора, і спіць ужо ён,
Ад храпу хістаецца мікрараён.
Прыбегла, прыбегла з трывогай дзятва.
– Абжора, абжора, хутчэй уставай!
Ад храпу хістаецца мікрараён!
Што будзе, як раптам разваліцца ён?!

Прачнуўся абжора, і кожны пачуў:
– Вой, родная мама, зноў есці хачу!



# ЗАГАДКІ З АДГАДКАМІ

– У ход пускае кулакі
У часе спрэчкі ўсякай…
Што за «герой» такі?
– Ён не герой, а забіяка.

***

– На просьбу памагчы
Адкажа лёгка: «Ай…»
І хто ж гэта такі?
– Вядома, што гультай.

***

– Не ведае нічога,
Да ведаў не імкнецца.
Ці чулі пра такога?
Ён невукам завецца.





# ЗАГАДКІ З ПАДКАЗКАМІ

З выраю першы вяртаецца,
З песняй да свету звяртаецца,
Поля і неба сябрук, –
Гэта, вядома, … *(жаўрук)*.

***

Як толькі дачакалася цяпла,
Збіраць нектар старанна пачала
Працалюбівая … *(пчала)*.

***

Спяшаецца як на пажар,
Стараецца – нясе цяжар,
Не скардзіцца, што цяжка,
Маленькая … *(мурашка)*.

***

Ці бачылі такое вы:
Я трох вачэй мяняю колеры,
Бы размаўляю я вачыма,
Са мной спрачацца немагчыма.
Вам памагаю з даўніх пор,
А назву маю… *(святлафор).*



# СМЯШЫНКІ

## Дзе чмель?

Цвіце хмель.
Гудзе чмель.
– Дзе, дзе, дзе
Чмель гудзе?
– У цябе на барадзе!

## Гэй, Вадзім!..

Ты, Вадзім,
Не глядзі,
Як лятуць вароны,
А вады набяры,
Палівай вазоны.

## Пытанне ўнучкі

– Ты, бабуля, сказала:
«Параходзік ідзе».
Толькі дзе яго ножкі?
Можа, ножкі ў вадзе?

## Рыбачок і кручок

Ля ракі рыбачок-навічок
Вуду жвавенька ўзяў на плячо,
Пахваліўся пры гэтым, дзівак,
Што ён спрытны, умелы рыбак.
Ды не хваліцца больш рыбачок,
Бо сябе падчапіў на кручок.



## Алежкавы арэшкі

З лесу ўчора наш Алежка
У кішэньцы
Нёс ласункі, нёс арэшкі
Сястры Жэньцы.
Ды не ўбачыла арэшкаў
Сястра Жэнька,
Бо дзіркавая Алежкава кішэнька.

## Важны нуль

Смяяліся з нуля пустога,
Што ён не значыць анічога.
А нуль да лічбы падкаціўся –
І дужа важны ён зрабіўся.

## Заклапочаная дзяўчынка

Паскардзілася Ніла:
– Вой, ведаеш што, мама?..
Разліў каток чарніла –
Ў яго на футры пляма!
Ну, прыйдзецца, відаць,
Яго ў хімчыстку здаць.

## Весялосць

Зіма на скрыпачцы іграла,
Завея лёгка танцавала,
Біў у далоні Дзед Мароз,
А люты рагатаў да слёз.



# ХУТКАВЫМАЎЛЯНКІ

## Восы весяліліся

Восем восаў весяліліся:
Восы разам пасяліліся!

## Каза лазу вязала

Страказе каза казала,
Што пучкі з лазы звязала,
Што казлу іх павязе,
Каб не лазіў па лазе.

## Троху гароху

Ля трох дарог
Рос гарох.
Мы троху гароху
Нарвалі ўтрох.



## Ягор і Ягорка

– Дзе Ягор?
– Ідзе з гор.
– Дзе Ягорка?
– Едзе з горкі.

## Добрыя звяры

Завітала зебра да зубра.
Зубру зебра зычыла дабра.

## Шурык ды Шура, шар ды парашут

У Шурыка – шар,
У Шуры – парашут.
У Шурыка і Шуры –
Шар ды парашут.

## Дубы і грыбы

У дуброве – дубы,
Пад дубамі – грыбы.

## Малюнкі Мальвіны і Паліны

Мальвіна малюе маліны,
Паліна малюе паўліна.

## Сны Соні і Тоні

Соні сняцца суніцы,
Тоні сняцца сініцы.



## Ці мог Цімох знайсці мох?

Ці мог Цімох
У цёмным лесе знайсці мох?
Калі ў цёмным лесе рос мох,
Знайсці мог той мох Цімох.

## Лілечка і лялечка

Лілечка лялечку Алачку
Любіць, яе забаўляе.
Лілечка Алачку-лялечку
Ў люльцы люляе.

# Змест

## Апавяданні



## Казкі





